www.nv-online.info

# Народная Воля

№№195–196
(3734–3735)
14 снежня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

# Нянавісць

Пабіліся двое суседзяў. А потым — пратакол, суд, штраф ініцыятару бойкі — усё як мае быць. Шараговае, здавалася б, здарэнне, у якім усе кропкі над “і” расстаўлены. І не было б пра што пісаць, калі б не прычына, з якой мужчыны хапалі адзін аднаго за грудкі.

*“11 жніўня позна ўвечары я сустрэў на 5-й вуліцы садовага таварыства “Атам” Уладзіміра Дзюкарава каля яго дома №193. Пасля некалькіх агульных слоў Дзюкараў запатрабаваў, каб я размаўляў з ім на рускай мове. “Это русская земля, надо говорить на русском языке!”, “Здесь нет белорусов, здесь все пшеки и жиды” і іх тут трэба “бить, воевать, стрелять”. І дадаў, што ёсць нейкія людзі і што яго сыны яму дапамогуць. І тут жа ўдарыў мяне два разы кулаком у твар.*

*Я назваў яго дурнем і сышоў. Адразу патэлефанаваў старшыні садовага таварыства спадару Аляксею Сушчонку і распавёў пра дзікі ўчынак. Праз некалькі хвілін да мяне пад’ехаў на машыне спадар Сушчонак і прапанаваў пайсці да Дзюкарава, каб спраўдзіць пачутае ад мяне. Мы пайшлі. Дзюкараў стаяў амаль на тым жа месцы на вуліцы. На запытанне старшыні праўлення Дзюкараў паўтарыў усё раней ім сказанае і пра рускую зямлю, і пра рускую мову, і пра пшэкаў, і пра жыдоў... Пра гатоўнасць “біць, ваяваць, страляць” сказаў, што гатовы пабіць мяне яшчэ і што яго сыны яму дапамогуць...”*

Назаўтра і сыны Дзюкарава прыходзілі. Так бы мовіць, выказацца...

А вышэйпрыведзеная цытата — з заявы, якую пракурору Мінскага раёна накіраваў Антось Вусовіч — той самы пацярпелы за тое, што ён беларус і заўжды размаўляе па-беларуску.

Пракурор не мог зразумець, чаго гэты чалавек ад яго хоча: вінаватага ж пакаралі. А Антось Вусовіч незадаволены, што суд пакараў суседа за звычайнае дробнае хуліганства (бойку), але ніяк не адрэагаваў на той факт, што не з-за нейкай сцежкі мужчыны пабіліся, не з-за жанчыны, не з-за таго, што адзін другому ў гарбату солі сыпануў... Два былыя навукоўцы-атамшчыкі пабіліся за Беларусь. Вусовіч — за тое, каб яе не ганьбілі. За тое, што тут не “руская зямля”. За права беларуса размаўляць на сваёй зямлі па-беларуску і не атрымаць за гэта ў морду.

Пракурор толькі рукамі разводзіў: “Дык вы хочаце, каб з-за гэтага была ўзбуджана крымінальная справа? Па якім артыкуле?”

“Я не ведаю, я не юрыст, — адказаў Антось Вусовіч. — Але калі беларусу за беларускую мову б’юць морду, то, напэўна ж, нейкі закон павінен быць...”

Пракурор заяву Вусовіча прыняў, але па яго твары было зразумела, што такі закон у нашай краіне наўрад ці знойдзецца. Хаця ў Крымінальным кодэксе ёсць артыкул, які прадугледжвае пакаранне за распальванне нацыянальнай варожасці. Але неяк не працуе ён, не заводзяцца такія справы.

Тым часам наконт беларусаў “аргументавана” выказалася галоўная культурэса газеты “Советская Белоруссия”, загадчык аддзела культуры галоўнага прэзідэнцкага выдання Вікторыя Папова. Выказалася коратка: *“Ненавіджу!”*

А было так. Паповай патэлефанаваў журналіст “Еўрарадыё”, заўсёды беларускамоўны Зміцер Лукашук, і задаў простае пытанне: каму з канкурсантаў адбору на “Еўрабачанне” яна як член журы аддала свой голас?

У адказ Лукашук выслухаў і пра тое, што нельга тэлефанаваць у панядзелак; і што непрафесійна задаваць падобныя пытанні пасля конкурсу; і што такая праца — “вясковы стыль”... А потым нейкі істэрычны рогат у Паповай выклікаў выраз “простае пытаннечка”...

Культурэсу нібы перакленіла: “Пытаннечка... Пытаннечка... Как я вас люблю, белорусов!.. Ненавижу! Ненавижу! Ненавижу!..” І яна павесіла слухаўку.

Ужо на наступны дзень, калі выкладзены Лукашуком у інтэрнэт аўдыёзапіс выклікаў хвалю абурэння, Папова апраўдвалася. Маўляў, гэта не пра беларусаў сказана. А ці то персанальна Лукашуку, ці то некаму, хто знаходзіўся з ёй побач падчас размовы з журналістам, ці стылю журналістыкі, які яна назвала “вясковым”... Але трэба паслухаць запіс, каб зразумець, што ўсё гэта ўжо толькі спробы выкруціцца з сітуацыі, адгаворкі. (Паслухаць можна тут: http://nn.by/?c=ar&i=101638).

Дык адкуль такая нянавісць, якую некаторыя ўжо проста не могуць стрымаць?..

Напэўна, не толькі таму, што ў нашай мове ёсць словы “пытанне” (“вопрос”) і “пытаннечка” (“вопросик”). Вікторыя Папова, дарэчы, не з прыезджых. Па крайняй меры, нарадзілася і вырасла яна ў Віцебску. “Маскоўскі перыяд” у яе жыцці быў кароткім і няўдалым: паспрабавала замацавацца ў Расіі, ды хутка вярнулася назад у “СБ”. Але выгляд абкуранай дамы сталічнай тусоўкі захаваўся.

Дурніца?

Зусім не! Не без таленту, з пяром.

Заўзята служыць сённяшняму рэжыму?

Не сказала б, нейкая такая сама па сабе.

...Дык чым жа мы, беларусы, ім так абрыдлі? Чаму самім фактам свайго існавання даводзім некаторых да шаленства?

Простага адказу на гэтае пытанне няма. Але рост антыбеларускіх настрояў у Беларусі робіцца фактам. Прычын шмат. І вялікадзяржаўныя амбіцыі нацыянальных меншасцяў, і страх аказацца чужымі на нашай зямлі... І вульгарная непісьменнасць — маўляў, “на беларускай мове нічога выбітнага не выкажаш”, і асабістыя трагедыі — “я ж такая яркая зорка, ды згасну тут разам з вамі”...

Але галоўная прычына — у тым, што мы не даём адпору. Наша славутая беларуская талерантнасць ператварылася ў паталогію, стала нейкай хваробай. Можна нам і ў твар пляваць, а мы сцерпім, змаўчым, не будзем звязвацца, не звернем увагі. Мы не станем гарою адзін за аднаго, за свой род, за сваю годнасць.

Вы можаце ўявіць, каб у Польшчы прыйшоў на працу і сеў за працоўны стол побач з палякамі чалавек, які смяяўся б з польскай мовы, выдыхаючы “Ненавіджу!”?

Вы можаце сабе ўявіць, каб у літоўскай вёсцы жыў не гараваў той, хто кідаецца ў бойку, пачуўшы літоўскую мову?

Такое немагчыма!

І не таму, што там іншыя законы. Таму што гэта той стыль паводзін, супраць якога без усялякага закона ўся грамада стане гарой.

А мы не станем.

І яны шалеюць.

НАДВОР’Е

## У нядзелю зноў моцны снег

Паводле прагнозу Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, заўтра ў Беларусі будзе воблачна з праясненнямі. Месцамі кароткачасовы снег, мяцеліца. Вецер паўднёва-ўсходні 6—11 м/с, днём у многіх раёнах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ноччу мінус 6—13°С, пры праясненнях да мінус 16°С; днём мінус 4—10°С, па паўднёвым захадзе мінус 1—3°С.

У нядзелю 16 снежня чакаецца дрэннае надвор’е: на большай частцы тэрыторыі снег, мяцеліца, у паўднёва-заходніх раёнах мокры снег, слабы галалёд; месцамі па краіне моцны снег, на дарогах снежныя заносы. Вецер паўднёва-ўсходні 7—12 м/с, парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра цягам сутак мінус 6—13°С, ноччу па паўночным усходзе пры праясненнях мінус 14—17°С; у паўднёва-заходніх раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей ноччу і днём 0 — мінус 5°С.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Што чакае Ігара Васільева?

*Судовае слуханне па справе былога намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама Ігара Васільева прызначана на 20 снежня. Пасяджэнне адбудзецца ў Мінскім абласным судзе.*

— Закрытае будзе слуханне ці не, вызначыць суддзя, — паведамілі ў сектары па крымінальным справам судовай установы. — Пачатак разгляду справы ў 10.00. Тэрмін разгляду — 20—22 снежня.

Ці азначае гэта, што ўжо 22 снежня будзе вынесена рашэнне па гэтай гучнай справе? Магчыма, і так. Як паведамлялася раней, падчас допытаў у КДБ Ігар Васільеў прызнаў сваю віну цалкам.

Як вядома, высокапастаўленага чыноўніка супрацоўнікі КДБ затрымалі 6 ліпеня гэтага года ў службовым кабінеце па падазрэнні ў вымагальніцтве хабару ў 500 тысяч долараў ЗША ў прадстаўнікоў еўрапейскага прадпрыемства-інвестара за спрыяльнае вырашэнне пытання, якое ўваходзіла ў кампетэнцыю Васільева і было звязана з заключэннем інвестыцыйнага дагавора на агульную суму больш за 30 мільёнаў долараў. Падчас затрымання Васільеву перадавалі першую частку хабару — 250 тысяч долараў. Гэта, як заяўлялі ў КБД, была ўмова чыноўніка — перадаваць грошы не адразу ўсёй сумай, а дзвюма часткамі.

Ігару Васільеву інкрымінуецца ўчыненне злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару асобай, якая займае адказнае становішча, у асабліва буйным памеры). Яму пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад пяці да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю. З моманту затрымання чыноўнік знаходзіцца пад вартай.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

SOS!

*Открытое письмо председателю Минского горисполкома Николаю ЛАДУТЬКО*

# В шаге от... смерти

**Все знают: недавний наезд со смертельным исходом на третьеклассника Вадика Грудьева произошел во Фрунзенском районе г.Минска. Казалось бы, где-где, а в этой части столицы после случившейся трагедии будет обследована каждая улица, каждый проезд, каждая площадка, устранено все то, что может привести к подобной беде. Увы! На словах такая работа сделана, а в действительности…**

**Подъедьте, Николай Александрович, утром, ближе к восьми часам, и вечером, когда начинает темнеть, в район улицы Кунцевщина. Кстати, к этой улице примыкает масса каких-то бедламских проездов. На одном небольшом пятачке размещены гимназия №4, обычная школа, колледж, две поликлиники, несколько детских садов, магазины, жилые дома… К началу занятий, к открытию дверей в ближайших учреждениях со стороны нового микрорайона “Каменная горка” устремляются сотни, тысячи людей. Примерно столько же двигается им навстречу, со стороны улицы Лещинского. Пешком и на машинах, с колясками и саночками. Вавилонское столпотворение!!!**

**Жутко смотреть, как машина лезет на машину, взрослые и дети, переходя с одной стороны проезда на другую, едва не попадают под колеса. Пробка за пробкой, водители выходят из себя, в ход идут не только маты-перематы…**

**Очередная трагедия, кажется, дышит в затылок. Николай Александрович, неужели ваши службы не знают об этой “горячей точке” во Фрунзенском районе?**

**Так, виноваты проектировщики квартала, которые когда-то разместили здесь множество разнопрофильных учреждений, жилых домов, не подумав о том, как люди будут добираться по нужным адресам. Но, скажите, разве не в силах той же Госавтоинспекции повесить знак, запрещающий стоянку транспорта вдоль и без того узкого проезда, который ведет к той же гимназии №4? Из-за того, что через каждые 20—30 метров у бордюров справа и слева припаркованы машины, разъехаться встречным в часы пик практически невозможно. Вездеходы-джипы перескакивают через бордюры и рвут по тротуарам, летним газонам…**

**А тут еще никто не убирает снег. Три дня назад, позавчера, вчера утром было такое месиво, что чуть ли не каждая вторая машина буксовала, а на косогор вообще подняться было невозможно. Что, нельзя ребром поставить вопрос перед коммунальщиками: мол, где-где, а тут, на пути в гимназию, школы, садики, поликлиники, нужно пустить уборочную технику в первую очередь?!**

**Создается впечатление, что во Фрунзенском районе нет ни исполкома с административным штатом, ни ГАИ, ни коммунальных служб.**

**Неужели кому-то нужна еще одна смерть? Что, трагедия Влада Грудьева ничему не научила? Задайте, Николай Александрович, эти вопросы тем, кто отвечает за безопасность людей, за порядок на улицах во Фрунзенском районе г.Минска. И спросите с них по всей строгости. Страшно подумать, но целый микрорайон находится в шаге от… смерти.**

**Антон КОЗУБОВСКИЙ.**

*Минск.*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Ялінка Салаўёва дагэтуль адна ў класе

*У Магілёўскай школе №1 у адзіным беларускамоўным класе вучыцца адзіная школьніца — Ялінка Салаўёва. Раней у дзяўчынкі былі двое аднакласнікаў — брат і сястра, але потым бацькі перавялі іх у іншую школу. Пасля таго, як “Народная Воля” напісала пра гэтую прыкрую гісторыю сітуацыя, на жаль, не змянілася.*

Бацька Ялінкі Зміцер Салаўёў, праўда, лічыць, што яго дачка не пазбаўлена звычайных дзіцячых радасцяў і ў школе не адчувае, што адрозніваецца ад сваіх аднагодкаў. Зміцер цалкам задаволены тым, што яго дачка з’яўляецца адзінай вучаніцай у класе, і сцвярджае, што іншыя дзеці не лічаць яе “белай варонай”.

Што да вучобы, то Ялінка мае вялікія поспехі. Гэта тлумачыцца тым, што з ёй адной увесь урок працуе настаўнік. Гэта дае яму магчымасць лепш кантраляваць веды, выкарыстоўваць нейкія новыя методыкі. Таму і такія вынікі на алімпіядах. Нядаўна дзяўчынка рашыла задачку, якую яе аднагодкі яшчэ і не праходзілі. Так што я вельмі задаволены. Магчыма, пасля пачатковай школы, у пяты клас, Ялінка будзе хадзіць не адна. Ёсць трое бацькоў, якія хочуць аддаць сваіх дзяцей вучыцца разам з маёй дачкой. Праблема ў тым, што наша школа ў цэнтры, а яны жывуць далёка, і трэба шмат часу дабірацца да школы. Але, спадзяюся, што такіх дзетак стане больш”.

Чаму дагэтуль у Ялінкі не з’явілася аднакласнікаў? Вядома, што ў Магілёве ёсць прадстаўнікі ўсіх партый і рухаў. Ці спрабавалі яны дабіцца, каб у горадзе была хоць адна беларускамоўная навучальная ўстанова ці хаця б паўнавартасныя беларускамоўныя класы? Сам Зміцер Салаўёў з’яўляецца кіраўніком абласной арганізацыі Партыі БНФ. Ён



лічыць, што прычына ў “бацькоўскім менталітэце”:

— Шмат было размоў на гэтую тэму, шмат хто з бацькоў падаваў заявы на навучанне ў беларускамоўным класе. Але потым, калі даведваліся, што ў іх школе больш ніхто з бацькоў такога жадання не выказаў, адмаўляліся ад сваіх намераў. Звычайна кажуць: “Не, не хачу, каб дзіця было адно ў класе. Лепш няхай ходзіць разам з усімі дзецьмі, каб адчуваўся калектыў. Не хапала яшчэ адмоўных эмоцый”. Нічога з гэтым не зробіш. Сяброўства ў партыі тут нічога не вырашае. Дарэчы, апошнім часам і акцэнты ў дэмакратычным асяродку крыху змясціліся — з беларускасці на сацыяльныя пытанні. Магчыма, і ў гэтым прычына.

Экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Рыгор Кастусёў раней кіраваў Магілёўскай суполкай Партыі БНФ. Ужо тры гады, як ён змяніў месца жыхарства і цяпер жыве ў Мінску. Вось яго разважанні:

— Чаму няма бацькоў з дэмакратычных партый, якія жадалі б аддаць сваіх дзяцей у такія класы? Гэта агульная бяда для ўсёй краіны. Партыйная прыналежнасць тут ні пры чым. Што да Магілёва, то ў асноўнай часткі сяброў Партыі БНФ дзеці ўжо выраслі і школы скончылі. У іншых дзеці яшчэ ў школу не пайшлі. Школа №1, дзе вучыцца Ялінка, у цэнтры горада, і іншым дзецям туды цяжка дабірацца. Для стварэння беларускамоўных класаў аднаго жадання бацькоў, якія з’яўляюцца сябрамі Партыі БНФ, недастаткова. Пакуль улада будзе зняважліва ставіцца да беларускай мовы, не з’явіцца перспектыва...

Што і казаць, спрэчныя разважанні, спадар Кастусёў. Гаворка ідзе не толькі пра пазіцыю тых бацькоў, якія з’яўляюцца сябрамі Партыі БНФ. Гаворка ідзе пра аўтарытэт тых апазіцыйных партый, якія на словах падтрымліваюць нацыянальнае адраджэнне, а на практыцы не могуць знайсці некалькі сямей, якія аддалі б сваіх дзяцей для навучання па-беларуску ў адзін клас з Ялінкай Салаўёвай. Калі вы, спадары партыйцы, не можаце вырашыць такое пытанне, то на што вы здольныя?

Вядома ж, аналагічныя прэтэнзіі і да магілёўскіх улад.

**Дзяніс КАЗЛОЎСКІ.**

СЛЫШАЛИ?

## Анатолий Тозик предлагает...

*Вице-премьер заявил, что поддерживает предложение Минтруда ввести обязательное декларирование доходов для всех граждан, а не только чиновников. Это, по его мнению, поможет выявить белорусов, которые неплохо живут, но не платят налогов.*

“Прошел год — скажи, за счет чего ты прожил его, какие доходы и какие расходы имел. У тебя есть и дом, и машина... И тогда, я думаю, это очень многих заставит выйти из тени, — заявил вице-премьер Анатолий Тозик. — Специалисты говорят, что у нас слишком большой процент теневого ВВП. И данные официальной статистики совсем не совпадают с теми реалиями, которые мы видим своими глазами. Сколько у нас автомобилей на душу населения? Почему в минские рестораны не попасть?”

“У нас около 400 тыс. человек тех, кто не работает или фактически работает, уходя от налогов и тем самым тоже паразитируя на социальной политике государства, — возмущался Анатолий Тозик. — Ведь за счет налогов оплачивается работа наших врачей и учителей, пенсии и больничные... А значит, на тех, кто трудится в реальном секторе экономики добросовестно, ложится двойная нагрузка... Вот скажите: если ту работу, которую могут сделать двое, делают четверо — это не иждивенчество? У нас 25 тысяч детей-сирот, и 82% из них имеют родителей, так разве эти родители не социальные паразиты? Или когда стариков досматривают в домах-интернатах при живых, нередко очень состоятельных детях — это нормально? Еще у нас около 4 тыс. так называемых бомжей. В прошлую морозную зиму мы их собирали, давали кров, одежду, кормили. А они в ответ всех только оскорбляли... Таких примеров — великое множество”.

К слову, что касается чиновников, то только сейчас Минюст выступил с инициативой обязать чиновников всех рангов вплоть до премьер-министра, главы Администрации президента, генерального прокурора, председателя Центризбиркома публиковать сведения из своих деклараций. На Западе это практика существует уже давно. И, можно предположить, служит хорошим примером для остальных граждан страны.

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## Калі шэнгенская віза для беларусаў будзе каштаваць столькі, колькі для расіян?

*Сёння шэнгенская віза для грамадзян Расіі каштуе 35 еўра, мы, беларусы, плацім за такую ж візу 60 еўра.*

Прадстаўнік Еўрасаюза ў Беларусі Майра Мора заявіла, што ЕС гатовы спрасціць візавы рэжым для беларусаў, але афіцыйны Мінск маўчыць.

Па яе словах, Еўрасаюз чакае адказу ад беларускіх улад на запрашэнне пачаць перамовы, каб спрасціць візавы рэжым. *“ЕС па-ранейшаму гатовы прыступіць да перамоў пра падпісанне пагадненняў пра спрашчэнне візавага рэжыму і рэадмісіі, што спрыяла б развіццю кантактаў паміж людзьмі і прыносіла карысць грамадству Беларусі ў цэлым”,* — заявіла Майра Мора агенцтву “Інтэрфакс”. *“Усё, што для гэтага трэба, — гэта адказ улад Беларусі на запрашэнне Камісіі пачаць перамовы, накіраванае ў чэрвені 2011 года”,* — дадала яна.

*Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі:*

Чытаю „Народную Волю“ з першых нумароў. І на наступны год таксама выпісала.



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук*



# Кто у кого в заложниках?

В Минске 7 декабря состоялось заседание совета Антикризисного фонда ЕврАзЭС. Повестка дня состояла из нескольких пунктов. Но вопрос о выделении очередного кредитного транша Беларуси был явно центральным и вдобавок весьма интригующим. В прошлом году в разгар валютного кризиса в Беларуси Антикризисный фонд ЕврАзЭС принял решение о выделении ей, можно сказать, спасительного кредита на общую сумму 3 млрд долларов под 4,1% годовых сроком на 10 лет. Кредит выделялся траншами. К настоящему времени мы получили три транша на сумму 1,68 млрд долларов. Белорусское руководство очень рассчитывало получить четвертый транш до Нового года, а далее, пятый и шестой, — в следующем году. Однако выделение кредита Антикризисного фонда обставлялось со стороны России некоторыми условиями. Потому как российская доля в уставном капитале фонда составляет 7,5 млрд долларов, доля Казахстана — 1 млрд, белорусская — 10 млн долларов. Доли ассоциированных с сообществом трех стран Киргизии, Таджикистана, Армении вообще символические — по 1 млн долларов.

Главным из этих условий являлась приватизация белорусских активов на сумму 7,5 млрд долларов, то есть по 2,5 миллиарда ежегодно в течение трех лет. Как нетрудно догадаться, в основном в пользу российского капитала. Кроме этого, белорусская сторона как заемщик давала обязательства довести уровень покрытия оплаты населением услуг ЖКХ до 35%, транспортных услуг — до 85%, ограничить объемы кредитования и т.д. В прошлом году условие Антикризисного фонда о приватизации белорусских активов было выполнено за счет продажи "Газпрому" госдоли в "Белтрансгазе" на искомую сумму в 2,5 млрд долларов. По остальным обязательствам цели достигнуты не были. Более того, белорусская сторона демонстративно отказалась от списков предприятий, которые поначалу намеревались приватизировать в текущем году, а объемы кредитования перекрыли вдвое.

Казалось бы, это не могло не задеть российское руководство. Тем не менее вышеуказанная интрига разрешилась быстро и просто: на заседании совета АКФ ЕврАзЭС и совета Евразийского банка развития — распорядителя фонда принято положительное решение о выделении Беларуси четвертого транша в размере 440 млн долларов. Можно предположить, что в Минск министр финансов А.Силуанов ехал с установкой В.Путина согласиться выделить этот транш. Догадываясь о том, о чем все догадывались, министр поспешил заявить: *"Могу вас заверить, что никакой политики в принятии этого решения не было — только экономика".* А невыполненные показатели, мол, будут контролироваться при решении вопроса о выделении следующих кредитных траншей. На наш взгляд, как раз экономика позволяла России легко отказать в очередном кредитном транше, который, как всегда, позарез нужен белорусскому правительству, чтобы иметь хоть какой-то шанс выпутаться из долгов наступающего года. О превалировании политических соображений при решении вопроса, где российский президент поставит запятую в выражении "дать нельзя отказать", догадывалось и белорусское руководство. Несмотря на то что белорусские власти не скрывали — они не собираются выполнять обязательств по приватизации в интересах российского капитала и получать с ее помощью так необходимую стране валюту, политическое решение в пользу заклятого союзника все же В.Путиным принимается. И принимается не впервые. На чем продолжает играть белорусское высшее руководство.

Для России важнее всего, чтобы Беларусь продолжала следовать по пути евразийской интеграции, надежно оставалась в Таможенном союзе. Обеспечивала России гарантированный западный коридор в экономических вопросах и надежный западный форпост в военных делах. Словом, постоянно находилась в сфере влияния России и только России. А перспективы широкого проникновения российского бизнеса в белорусскую экономику остаются. Это никуда не денется. Даже с учетом траншей АКФ Беларусь входит в следующий год без наличия всех источников погашения предстоящих внешних долгов. За счет своего экспорта, по подсчетам того же Министерства финансов, можно вернуть только их половину. Министерство спешно ищет источники покрытия на азиатском рынке, занимает валюту внутри страны. Положение усугубляется появлением в августе месяце после исчерпания "растворительного бизнеса", который прикрыла Россия, отрицательного сальдо торговли товарами и услугами, которое составило в октябре 165,89 млн долларов, а с учетом выплаченных России экспортных пошлин — минус 427,7 миллиона. Не дают ожидаемых результатов в поступлении в страну валюты и прямые иностранные инвестиции. В октябре на чистой основе они составили всего 44,3 млн долларов. Инвестиции в реальный сектор составили за январь—октябрь 674,5 млн долларов, что существенно ниже аналогичного показателя за 2011 год, когда они достигли 824 млн долларов.

Не исключено, что белорусская экономика в следующем году не насобирает и тех объемов валюты, на которые она рассчитывает. И самое главное, российское руководство продолжает стоять на том, что Беларусь получит только 18 млн тонн нефти по трубопроводам, а не 23 млн, как просит белорусская сторона. Недополучение 5 млн тонн нефти — это для белорусского торгового баланса практически катастрофа со всеми вытекающими последствиями. Практика показала, что покупать нефть у Венесуэлы, о чем снова вспомнило правительство Беларуси, убыточно. Эта практика и ввергла нас в валютный кризис 2011 года. Поэтому А.Лукашенко будет, вероятно, лично вести переговоры с В.Путиным о поставках в Беларусь нефти, снова пообещав чего-нибудь взамен. Вроде того, чтобы перенаправить часть белорусских грузопотоков с близких нам портов Литвы и Латвии в далекую российскую Усть-Лугу. А В.Путин вновь сделает вид, что поверил. Так или иначе, все козыри как были, так и остаются в руках России. Правительство и президент Беларуси могут играть лишь на том, что руководство России как кредитор остается в известном смысле заложником у заемщика: не дашь вновь кредита — потом, скорее всего, не получишь ничего. Заемщик вконец обанкротится. В свою очередь гарантированные кредиты порождают у белорусского руководства иждивенческие настроения и никак не стимулируют его проводить перезревшее реформирование экономики.

ПАЛІТКУХНЯ

## Пазьняк не хоча лезці «чорту ў пашчу»

*Зянон Пазьняк не будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. Палітык абверг чуткі, якія з'явіліся на гэты конт, і лічыць, што ўдзельнічаць у выбарах разам з Аляксандрам Лукашэнкам неэтычна.*

*"Чуткі распускаюць людзі, якім проста няма чаго казаць, альбо яны робяць гэта з нейкай мэтай",* — заявіў старшыня КХП—БНФ у інтэрв'ю Радыё "Рацыя".

Нагадаем, што сам Пазьняк у маі гэтага года заявіў аб тым, што партыя, якую ён узначальвае, пачынае падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў. Але, як высвятляецца, гэта не значыць, што Пазьняк будзе ў іх удзельнічаць.

*"У маі я выступаў і казаў, што сітуацыя настолькі небяспечная, што гэты рэжым можа абваліцца,* — тлумачыць Зянон Пазьняк. — *Калі ў грамадстве няма альтэрнатывы — гэта вельмі дрэнна, таму што тады ўладу могуць падабраць нават крымінальнікі. Сам па сабе гэты рэжым не абваліцца, яго можа абваліць Масква — гэта відавочна, што яны могуць знайсці нейкую замену, гэта адчуваецца... Таму наша грамадства павінна быць арганізацыйна да гэтага падрыхтавана. Тады я аб'явіў аб стварэнні ценявога кабінета, ён ужо практычна створаны. Калі адбудуцца такія падзеі ў Беларусі, то такая арганізацыя — ценявы кабінет — павінна быць, яна павінна выступіць і ўзяць на сябе пэўныя функцыі навядзення парадку, правядзення выбараў у парламент і гэтак далей. Каб улада не валялася на дарозе, як было ў 1917 годзе ў Расіі, калі яе падабралі крымінальнікі-бальшавікі. Безумоўна, што пакуль існуе гэты рэжым, то ніхто ж не палезе чорту ў пашчу. Тыя, хто гэтага не разумеў, ужо не жывуць".*

ВІНШУЕМ!

***Няшмат на беларускім рынку засталося незалежных выданняў, якія пачыналі яшчэ ў свабодныя 1990-я.***

***А вось "Нацыянальная эканамічная газета" здолела пратрымацца ўжо 20 гадоў.***

***Калегі, мы шчыра вас віншуем!***

***Жадаем творчых, асабістых і прафесійных поспехаў! Адданых і спагадлівых чытачоў! Грошай, здароўя, удачы!***

***А таксама — як мага больш нагод для добрых навін!***

ГЛЫБІНКА

# «Вертыкальныя» дзівосы,

## альбо Як выконваюць волю прэзідэнта на месцах

***На адным з апошніх пасяджэнняў прэзідыума Саўміна РБ гаварылі пра павышэнне надояў малака, пра эфектыўнасць малочных гаспадарак і пра навядзенне элементарнага парадку ў гэтай сферы. Прэм'ер Міхаіл Мясніковіч прапанаваў персаніфікаваць адказнасць за вытворчыя недахопы. "Калі ёсць факты па гаспадарцы, па раёне ці вобласці, — даводзіў ён, — то трэба пераводзіць у канкрэтныя імёны і прозвішчы і ставіць пытанне аб прыцягненні да адказнасці альбо мэтазгоднасці займаць адпаведную пасаду". Карацей, прыйшлі да высновы, што эфектыўнасць малочнай галіны варта і трэба ўздымаць за кошт узмацнення асабістай адказнасці мясцовых начальнікаў. Але як таго дамагчыся, калі сталіца — далёка, а сваё балота — глыбока?..***

У сувязі з гэтым прыгадваю публікацыю "Вертыкальныя" дзівосы...", надрукаваную ў "Народнай Волі" 14 жніўня 2012 года. У артыкуле якраз і прыводзіліся факты грубага парушэння працоўнага заканадаўства і безгаспадарчасці, якія пышна зацвілі ў адной з сельскіх гаспадарак Талачынскага раёна. Не буду пераказваць змест артыкула, нагадаю толькі, чым ён заканчваецца. Дык вось, пракурор Талачынскага раёна **Іван Антонавіч Едзіс** паабяцаў (падчас нашай сустрэчы), што справа аб пакрыцці фінансавай страты, нанесенай ААТ "Звянячы" ў выніку незаконнай выплаты спадарыні Лукашэвіч 27 мільёнаў рублёў, будзе накіравана ў суд. А яшчэ пракурор удакладніў, што фінансавую шкоду кампенсуе не сама Лукашэвіч, а былы кіраўнік гаспадаркі, які, парушаючы ўсе законы, аформіў "незаменную" супрацоўніцу адразу на некалькі пасад. Усё было б шыта-крыта, ды ўзбунтаваліся мясцовыя праўдалюбы. Адзін з іх — механізатар Аляксей Міхайлавіч Казырэвіч — і звярнуўся са скаргай у пракуратуру. Тры месяцы чакаў адказу, але ўсё дарэмна. Спрабаваў было сустрэцца з ахоўнікамі дзяржзаконнасці, але зноў адлуп: памочніца пракурора Вольга Міхайлаўна Бабровіч усяляк адмаўлялася выслухаць механізатара. Зноўку прыйшлося ўмяшацца журналістам. І што ў сухім астатку? Высветлілася, што іск па вяртанні незаконна выплачаных грошай пракуратура не накіроўвала ў суд з прычыны заканчэння тэрміну. Самае цікавае, што спадарыня Лукашэвіч як займала некалькі пасад, так і займае... Яна і касір, і інспектар аддзела кадраў, і сакратар... Мясцовыя ўпэўнены, што якраз ёю аформлены на працу некалькі "мёртвых душ", а гэта — зноў-такі фінансавыя страты, нанесеныя ААТ "Звянячы".

Людзі расказваюць: маці эканаміста Вольгі Лапцінскай была аформлена тэхнічкай на поўную стаўку, хоць жыве і працуе ў іншым месцы. Заработную плату і адпускныя атрымлівала, канечне, дачка... Ці вось наступны факт: яшчэ пры старшыні Мікалаю Лісаву фіктыўна быў аформлены на працу нехта Віталь Сузін, які на самай справе працуе ў... Расіі. Не зразумела, хто атрымлівае зарплату, але стаж чалавеку ідзе.

Што ж адносна праўдалюба і змагара за справядлівасць Казырэвіча, то яму — вядомая справа — усяляк помсцяць. Напрыклад, механізатарам (на заробленыя грошы) выдаюць па 450 кілаграмаў збожжа. А вось Аляксею Міхайлавічу не выдалі, хоць у кантракце чорным па белым тое прадпісана. Чалавеку, якому заставаўся месяц да выхаду на пенсію, інспектар аддзела кадраў Лукашэвіч не прадаставіла (па запыце) копію працоўнай кніжкі і даведку пра зарплату. Карацей, каб ведаў сваё месца, каб не высоўваўся...

Ну дык, можа, "Звянячы" апярэдзілі ўсіх па надоях малака, ці там па энерганасычанай сельгастэхніцы вырваліся наперад? Ды не, тэхніка на прыколе, а па надоях — апошняе месца ў раёне. Рэдактар раённай газеты Віктар Бірукоў неяк наведаў гаспадарку і жахнуўся: толькі за 26 лістапада сельгаспрадпрыемства змінусавала на 2,67 кілаграма малака. І гэта пры тым, што з каровы там атрымліваюць 5 кілаграмаў малака, у той час як па раёне выходзіць крыху больш за 10 кілаграмаў. Толькі на адной ферме ў Малым Высокім за дзень недаатрымалі 200 літраў малака ў параўнанні з леташнімі паказчыкамі. Тутэйшыя людзі расказваюць, што неаднойчы з-за нядбалага захоўвання малакапрадукцыі яна папросту скісала. Тады яе — непрыгодную — спісвалі на кармленне цялятам, на самай жа справе вылівалі долу. Апошні выпадак надарыўся 25 кастрычніка 2012 года — дзве з паловай тоны было выліта на зямлю на ферме ў Ляўкова. Каб жа толькі гэта... У Малым Высокім з 90 кароў дояцца толькі 58. Бракаваных кароў ніхто і не думае выбракоўваць, мяняць на высакаўдойных, здаровых, элітных... На фермах велізарная цякучасць кадраў. А чаму? Умовы працы дапатопныя, заробкі мізэрныя. Адпаведна і адносіны да працы — абы дзень ды вечар... Да раздачы кармоў жывёлаводы приступаюць толькі а палове восьмай раніцы. Раздатачнай тэхнікі (хоць якой) не хапае, таму апошняя карова атрымлівае сваю "пайку" пасля 11 гадзін. Пра якія надоі тут гаворка?! А тут яшчэ і дах падцякае, вада ў некаторыя паілкі ледзьве сочыцца — кароў пояць з вядзёр... У вёсцы Ляўкова яшчэ да пачатку верасня павінны былі здаць у эксплуатацыю сучасную ферму, як тое і прадугледжвала рэспубліканская праграма па мадэрнізацыі малочна-таварных фермаў. Але тэрміны ўводу ўвесь час адкладваюцца. Вокны на той ферме так і не зашклілі — замест шкла поліэтылен.

Пра ўсе гэтыя прарэхі ў ААТ "Звянячы" спадар Казырэвіч напісаў у Камітэт па сельскай гаспадарцы Віцебскага аблвыканкама. Тыя быццам бы прыслалі праверку, але... нічога не выявілі. Затое ўзяліся пужаць нашага праўдалюба. Вось вытрымка з ліста, дасланага чыноўнікамі Аляксею Міхайлавічу: *"Факты, изложенные в вашем обращении, в ходе проверки не подтвердились. Обращаем ваше внимание, что пунктом 2 статьи 19 Закона "Об обращениях граждан" определено, что расходы, понесенные организациями в связи с рассмотрением систематически направляемых необоснованных обращений в одну и ту же организацию, от одного и того же заявителя, а также обращений, содержащих заведомо ложные сведения, могут быть взысканы с заявителей в судебном порядке".*

Больш за тое, Казырэвічу тая правяральшчыца (юрыст Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Віцебскага аблвыканкама) сказала наступнае: вы разлаваны, мусіць, таму, што Лукашэвіч адмовіла вам у інтыме... Натуральна, механізатара — узорнага сем'яніна — такі пасаж, мякка кажучы, абурыў. Але не здзівіў, асабліва ўлічваючы тое, што разам з правяральшчыцай з Віцебска прыбыла — хто б, вы думалі? — галоўны спецыяліст упраўлення па сельскай гаспадарцы і харчаванні Талачынскага райвыканкама Тамара Станчанка, родная сястра дырэктара ААТ "Звянячы" Міхаіла Станчанкі. Дык ці не кругавая парука?.. І ці варта тут здзіўляцца таму, што некалі моцнае сельгаспрадпрыемства на вачах хірэе і ператвараецца ў банкрута?

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**



ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Беларускія пенсіянеры «ўзарвалі» інтэрнэт



Зоя і Валера, сястра і брат з вёскі, што ў Брэсцкай вобласці, сваім народным каверам на песню Алены Ваенгі "Курю" зрабілі "прарыў" у сеціве. Пасля таго, як іх сваячка за сталом зняла на камеру выкананне песні, а потым выклала ролік на YouTube, на пенсіянераў абрынулася слава. Ролік ужо прагледзелі больш за паўмільёна наведвальнікаў інтэрнэту. Дуэт выклікае ў гледачоў толькі станоўчыя эмоцыі.

Пра народных выканаўцаў вядома няшмат. Лёсы Зоі і Валеры падобныя на лёсы тысяч беларусаў. Брат і сястра жывуць у адной вясковай хаце, якую некалі набыла Зоя пасля таго, як развіталася са сваім другім грамадзянскім мужам. Абодва маюць дарослых дзяцей і абодва самотныя людзі. Даволі часта Валера бярэ гармонь, а Зоя спявае. Аднавяскоўцы прыходзяць да іх, каб паслухаць хатнія канцэрты.

Дзякуючы відэаролiку, аўдыторыя гледачоў значна пашырылася. Цікава, што самі выканаўцы кліп не бачылі, бо не маюць камп'ютара. Цяпер у сацыяльных сетках ідзе збор сродкаў на камп'ютар для сямейнага дуэта. За сабраныя 7,3 тысячы расійскіх рублёў ім ужо набылі лічбавую фотакамеру.

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЫВШИЕ

# Московский клан Малумовых

## Стоит ли строить страну, в которой не хотят жить твои дети?

В Москве успешно работает адвокатское бюро "Малумовы и партнеры". Знакомая белорусам фамилия, не правда ли?..

Юрий Георгиевич МАЛУМОВ родился в Минске. Образование высшее.

В 1979 году закончил Белорусский политехнический институт, инженер-строитель.

В 1987 году — юридический факультет Белорусского государственного университета, юрист.

04.1980—07.1994 — служба на должностях оперативно-начальствующего состава органов Министерства внутренних дел, г.Минск.

07.1994—01.1996 — председатель Комитета по борьбе с коррупцией Администрации президента, начальник главного управления кадровой политики Администрации президента.

01.1996—01.1998 — заместитель председателя Верховного Совета 13-го созыва.

01.1998—10.2000 — начальник главного управления Исполкома Союза Беларуси и России и Постоянного комитета Союзного государства.

10.2000—10.2003 — советник-посланник Посольства Республики Беларусь в Российской Федерации.

10.2003—09.2011 — Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Беларусь в Туркменистане, г.Ашхабад.

Женат. Имеет трех сыновей.

Это официальная биография, в которой не сказано, может быть, самое главное. Малумов и Лукашенко познакомились, когда Юрий Малумов, на тот момент занимавший должность заместителя начальника отдела УБЭП МВД Беларуси, был направлен к председателю временной парламентской антикоррупционной комиссии для подготовки знаменитого антикоррупционного доклада. То есть именно Малумов является одним из реальных авторов того самого доклада, который позже вознес Александра Лукашенко в президентское кресло.

Потом, оказавшись в Верховном Совете и будучи вице-спикером парламента, именно Малумов обеспечивал отзыв депутатских подписей под обращением группы депутатов в Конституционный суд, что привело к срыву процедуры импичмента Александру Лукашенко. Он председательствовал на депутатском собрании, принявшем решение о роспуске Верховного Совета. И, кстати, был единственным из участников собрания, который при голосовании воздержался. Все остальные проголосовали за роспуск.

Что произошло дальше между Лукашенко и Малумовым, сложно сказать. Но с 2000-го до 2011 года карьеру Малумова можно было назвать дипломатической ссылкой. И после отзыва с поста посла Беларуси в Туркменистане Юрий Малумов на госслужбу не вернулся. Хотя ему только 55 лет, возраст не пенсионный. И служил он этому режиму истово, рьяно. По сути, был одним из тех, кто создавал его.

Но...

Помните строку биографии, что Юрий Георгиевич Малумов имеет трех сыновей?

Так вот, руководство московского адвокатского бюро "Малумов и партнеры" это:

— Георгий Юрьевич Малумов — управляющий партнер. Кандидат юридических наук. Окончил Российскую таможенную академию. До перехода в адвокатуру являлся сотрудником Управления экономической безопасности правительства г.Москвы;

— Александр Юрьевич Малумов — партнер. Кандидат юридических наук. Окончил Академию Федеральной службы безопасности Российской Федерации. Работал помощником заместителя председателя Государственной думы по правовым вопросам — руководителем юридической службы Аппарата фракции "Родина";

— Григорий Юрьевич Малумов — партнер. Окончил Российскую таможенную академию по специальности "Юриспруденция" и Российский государственный торгово-экономический университет по специальности "Финансы и кредит". До работы в Бюро имени своей семьи работал в Федеральной таможенной службе Российской Федерации, затем занимался законотворческими вопросами в Государственной Думе.

Малумовы-младшие сделали прекрасную карьеру. Сегодня их адвокатское бюро сопровождает деятельность "Российского газового общества", сделки с недвижимостью, выступает юридическим консультантом партии "Народный союз" одиозного Сергея Бабурина. Они не просто обеспеченные, а богатые люди. Но не в Беларуси. В России.

Учились в России, работали в России, живут в России.

Так для кого строил нынешнюю Беларусь их папа? Почему в том режиме, к укреплению которого он не только приложил руку, но и активно поучаствовал, не захотели жить его собственные дети?

И ведь пример Малумовых — не единичный.

**Елена НОВИКОВА.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Прамаргаў "плюшавы дэсант" — пад суд!

Следчы камітэт Беларусі завяршыў расследаванне крымінальнай справы па абвінавачванні памежніка ў парушэнні правілаў нясення памежнай службы. Яму пагражае ад 2 да 7 гадоў пазбаўлення волі.

*"Следствам устаноўлена, што 4 ліпеня 2012 года каля 5 гадзін 57 хвілін падданыя Каралеўства Швецыя на лёгкаматорным самалёце на вельмі малой вышыні з боку Літоўскай Рэспублікі паблізу населенага пункта Баранавічы Іўеўскага раёна незаконна перасеклі дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь. У ходзе палёту над тэрыторыяй Беларусі экіпажам былі выкінуты плюшавыя медзведзяняты",* — нагадалі ў СК.

Пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы самалёт быў своечасова выяўлены пагранічным нарадам.

*"Пра гэта здарэнне нарад далажыў дзяжурнаму памежнаму пасту „Суботнікі", які ўваходзіў у склад нарада па ахове дзяржаўнай мяжы.* — канстатавалі ў СК. — *Дзяжурны памежнага паста ў парушэнне ўстаноўленага парадку, па ўласнай нядбайнасці, не перадаў прынятае данясенне аб назіранні паветранай цэлі — лятальнага апарата над дзяржаўнай мяжой у падраздзяленне ВПС і СПА Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь і вышэйшаму дзяжурнаму пагранічнага атрада. Паколькі апавяшчэнне адсутнічала, падраздзяленні супрацьпаветранай абароны Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь не былі пераведзены ў рэжым павышэння ступені баявой гатоўнасці, не знайшлі і не спынілі парушэнне дзяржаўнай мяжы Беларусі замежным паветраным суднам".*

Абвінавачаны з пачатку следства знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе.

ЖАХ!

## 19-гадовая маці закапала ў снег немаўля

### Паўтарамесячнае дзіця цудам выжыла.

Жудаснае здарэнне адбылося ў Светлагорску. Выпадкова ў гэтага ўчынку з'явілася сведка. Жанчына ўбачыла ў акно, што на сцежцы спынілася маладая жанчына з каляскай, дастала адтуль немаўля, кінула ў снег і закапала.

Жанчына выбегла на вуліцу, раскапала снег, выявіла там калыску з дзіцем, забрала хлопчыка дадому і патэлефанавала ў міліцыю.

На наступны дзень падазроная была затрымана. Распачата справа па артыкуле 159 Крымінальнага кодэкса (пакіданне ў небяспецы).

Зараз дзіця знаходзіцца ў дзіцячай бальніцы, яно не пацярпела.

Дарэчы, высветлілася, што ў маладой маці крымінальнае мінулае. Летам 2012 года яна была судзімая па двух артыкулах — 147 КК (нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў) і 157 КК (наўмыснае пастаўленне іншай асобы ў небяспеку заражэння ВІЧ).

Па рашэнні суда яна атрымала чатыры гады абмежавання волі і штраф у памеры 30 базавых велічынь. Цяжкія цялесныя пашкоджанні маладая жанчына нанесла свайму сужыцелю. Пражывала яна з маці, з сужыцелем афіцыйна адносіны не былі зарэгістраваныя.

